www.nv-online.info

№ 42 (4089)

3 чэрвеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Арганізацыі з дзярждоляй уласнасці займаюць дамінуючае становішча ў беларускай прамысловасці – 80%, пры гэтым чвэрць (!) з іх у першым квартале 2016 года былі стратныя.



SOS!

## Чым аддаваць крэдыты?

У маі гэтага года на сустрэчы з эканамістамі прадстаўнікі Нацбанка паведамілі, што запазычанасць беларускіх прадпрыемстваў па крэдытах у чатыры разы перавышае выручку суб'ектаў гаспадарання. На той жа сустрэчы зазначалася, што многія прадпрыемствы-пазычальнікі сёння знаходзяцца ў складаным фінансавым становішчы. Згодна са звесткамі сакавіцкага маніторынгу, які праводзіў Нацбанк, попыт на прадукцыю амаль 50% прадпрыемстваў, што даследуюцца, зніжаўся. Рост попыту на сваю прадукцыю падчас апытання адзначылі толькі прыблізна 10% прадпрыемстваў.

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

## Пастка

Днямі ў Астане беларускі кіраўнік прымераў маску крутога апазіцыянера. На тле фальшывага аптымізму іншых удзельнікаў саміту Еўразійскага эканамічнага саюза Аляксандр Лукашэнка фактычна засведчыў, што гэты інтэграцыйны праект цярпіць фіяска. Маўляў, ад самага яго старту ўнутраны гандаль толькі падае (ад 65 млрд долараў у 2013 годзе да 45 млрд у 2015-м), а розных выняткаў ды абмежаванняў як было, так і застаецца каля 600. Пуцін спрабаваў аспрэчыць лічбу, але па сутнасці крыць не было чым.

Дык што далей? Мо Лукашэнка выведзе Беларусь з ЕАЭС ды ўляжа ў інтэграцыю з Еўрасаюзам? Зразумела ж, раней рак на гары свісне. І праблема не толькі ў тым, што страшна раззлаваць Маскву, якая зладзіла Украіне пекла, калі тая пайшла на збліжэнне з Еўропай. Карэнная праблема ў тым, што пры замшэлай палітычнай ды эканамічнай сістэме, якую збудаваў нязменны прэзідэнт, Беларусі ў Еўропе няма чаго лавіць.

Назарбаеў, болей гнуткі ў эканамічных пытаннях, умее заваблівацць інвестараў, але здолеў стварыць хіба што дзяржаўны капіталізм з усімі яго заганамі, а цяпер тамтэйшая сыравінная эканоміка прасела праз падзенне цэн на нафту і газ. Гэта ж падкасіла і эканоміку Расіі, а звыш таго яна нажыла на сваю галаву заходнія санкцыі праз Крым і Данбас. Нядаўна прынятыя ў ЕАЭС Арменія ды Кыргызстан у эканамічным плане ўвогуле карлікі, яны і пайшлі ў хаўрус дзеля маскоўскіх пернікаў. Між тым пернікаў менее, што падсякае пад корань увесь гэты праект Крамля, бо іншых стымулаў для інтэграцыі пад сваёй эгідай ён прапанаваць не можа, ягоныя "духовные скрепы" нікому з суседзяў задарма не патрэбны.

Што ж яднае тройку заснавальнікаў ЕАЭС? Аўтарытарызм. Прычым махровы. І ў Беларусі, і ў Казахстане, і ў Расіі наглуха заблакіраваны дэмакратычныя механізмы змены ўлады. І Пуцін, і Назарбаеў, і Лукашэнка найперш думаюць не пра рэформы, а пра тое, як з гарантыяй праштампаваць сабе чарговы тэрмін. У расійскім выпадку гэта абцяжарваецца яшчэ і імперскімі комплексамі. Каб трымаць рэйтынг, гаспадар Крамля лезе ў авантуры на міжнароднай арэне (што ён забыў у той Сірыі, напрыклад?), мераецца крутасцю з НАТО, Амерыкай. Беларусь жа, па-першае, страчвае грошы ад сціскання расійскага рынку, па-другое, рызыкуе стаць закладніцай новай халоднай вайны. Калі Масква паставіць у нас свае "Іскандэры" (ці, крый божа, ядзерную зброю), то ўсе надзеі Мінска замірыцца з Бруселем і Вашынгтонам пойдуць кату пад хвост.

Лукашэнка нутром чуе небяспеку, таму адбіваецца рукамі і нагамі ад намераў Крамля дыслацыраваць сваю авіябазу ў Бабруйску. Але эканамічная залежнасць ад Масквы такая, што надта не рыпнешся. Яшчэ ў 1990-я замест таго, каб перабудоўваць адзяржаўленую постсавецкую эканоміку, дыверсіфікаваць гандаль, Лукашэнка зрабіў стаўку на расійскую нафтагазавую дурніцу. Плюс п'янілі мары пра крамлёўскі трон. Але тыя мары даўно разышліся як заечае сала, сёння ж канчаецца эра энергетычных імперый. Беларускаму рэжыму ўжо не свеціць паўтор нафтавага афшору, калі шалёныя грошы як з куста сыпаліся. Звыш таго, Масква адсунула аж на 2025 год стварэнне ў ЕАЭС агульнага рынку нафты і газу (шкада страчваць навар на энергарэсурсах, інтэграцыя пачакае, паратопчацеся). Мінск спрабуе плаціць за расійскі газ амаль што ўдвая меней, чым вымагае двухбаковая формула, аднак гэта пагражае новым вялікім скандалам.

Карацей, калі разабрацца, то Мінск з Масквой жывуць як кот з сабакам. Свае "цёркі" ў Крамля і з Астаной, і з Бішкекам, і з Ерэванам. Пры гэтым на еўразійскіх самітах па-ранейшаму дамінуе крывадушна-мажорная рыторыка, бо і падзецца адзін ад аднаго небаракам-інтэгратарам няма куды. Вось і беларускі кіраўнік пасля разгромных заяў у казахстанскай сталіцы стаў банальна разважаць пра тое, што "нам трэба самім быць моцнымі, усяляк умацоўваць свой саюз – тады нам лягчэй будзе весці дыялог і з Еўрапейскім Саюзам, і з КНР, і з іншымі". Але між тым Лукашэнка з Назарбаевым акурат і заблакіравалі стварэнне ў ЕАЭС палітычных надбудоў (без якіх нельга сабе ўявіць ЕС), не хочуць даваць шмат паўнамоцтваў Еўразійскай эканамічнай камісіі. Бо, па-першае, не прывыклі дзяліцца ўладай, гуляць па правілах, а па-другое, цалкам абгрунтавана баяцца, што цераз палітычныя надбудовы Масква ціхай сапай прыбярэ да рук суверэнітэт партнёраў. Не можа быць раўнапраўнай інтэграцыі пад дахам былой імперыі, якая захавала ранейшыя замашкі. Звыш таго, эканомікі чальцоў ЕАЭС самі па сабе адсталыя, дэфармаваныя, рэсурсазалежныя, як шашалем, паточаныя карупцыяй; навуковы і тэхналагічны патэнцыял дэградуе. Карацей, ломанага шэлега не варты вашы заклікі стаць моцнымі, калі вы кансервуеце няздольныя да дынамічнага развіцця рэжымы асабістай улады.

Сваім змрочным спічам на саміце ў Астане беларускі афіцыйны лідар дэ-факта засведчыў калапс еўразійскай інтэграцыі. Але выскачыць з гэтай каляіны кароткі заваротки. Так, Лукашэнка будзе трохі скандаліць, каб выбіць у Пуціна нейкія зніжкі, трохі манеўраваць, гуляць з Бруселем, каб не апынуцца зусім прыпёртым да сценкі, але па вялікім рахунку Беларусь пры цяперашнім рэжыме несумяшчальная з Еўропай. Правадыр завёў краіну ў еўразійскую пастку і сам не ведае, як даць рады.

ЧУЛІ?

## Сяргей Скрабец працаўладкаваўся

*Зараз былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу даглядае за інвалідам І групы.*

Нагадаем, у свой час былы генеральны дырэктар ЗАТ "БелБабаеўскае", экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Сяргей Скрабец** быў адпраўлены за краты за быццам бы нанесены дзяржаве матэрыяльны ўрон. У Палаце прадстаўнікоў Скрабец узначальваў дэпутацкую групу "Рэспубліка", якая была ў адкрытай апазіцыі да ўлады.

Выйшаўшы на волю ў 2006 годзе, ён беспаспяхова спрабаваў уладкавацца на працу, хаця нейкія "прасветы" ў гэтым накірунку і былі.

– За дагляд за інвалідам атрымліваю штомесяц дапамогу ў памеры каля паўтара мільёна рублёў, – распавёў Сяргей Скрабец. – Да таго ж не трапляю ў спіс "лайдакоў". Дарэчы, з гэтых грошай у мяне нічога не вылічваюць на пагашэнне той сумы, што налічыў суд яшчэ ў 2006 годзе.

**– Колькі вы павінны яшчэ выплаціць?**

– Напачатку налічылі 700 мільёнаў рублёў, але з улікам інфляцыі сума павялічылася прыкладна да паўтара мільярда. Выплаціў за 10 гадоў усяго каля 100 мільёнаў, таму тут не бачна ніякага прасвету. Я палічыў, што мне каля 150 гадоў трэба плаціць, каб разлічыцца з дзяржавай.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛІЧБА ДНЯ

## 13,1 мільярда долараў

**Такі знешні дзяржаўны доўг Беларусі.**

**Сёлета ён павялічыўся на 651,7 млн долараў ЗША, ці на 5,2%, паведамляе прэс-служба Міністэрства фінансаў.**

ДАРЭЧЫ

## У каго пазычылі?

Прэс-служба паведамляе, якія ў 2016 годзе былі прыцягнуты знешнія дзяржаўныя пазыкі.

Найбольшую суму Беларусь "перахапіла" ў Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця – 500 мільёнаў долараў. Банкі Кітая пазычылі нам 111,1 млн долараў. Ад урада і банкаў Расіі мы атрымалі 153 млн долараў, ад Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця 17,3 млн долараў.

Усяго ў 2016 годзе ўрад Беларусі пазычыў грошай на суму 781,4 млн долараў.

И О ПОГОДЕ...



## Все – аномально

Начальник службы гидрометеорологических прогнозов Республиканского центра по гидрометеорологии **Дмитрий РЯБОВ** провел пресс-конференцию о том, каким будет летний сезон в Беларуси, напомнив предварительно о температурах прошедшей весны.

### Весна вошла в десятку самых теплых сезонов

Весна пришла в этом году в аномально ранние сроки – 26–27 января. Я не оговорился. Зимние температуры в Беларуси стояли только один месяц – в январе. Потому что в декабре была ноябрьская погода, похолодало лишь 25 декабря, выпал снег, и уже в начале января температура опустилась до минус 20–30 градусов. Но ненадолго. Февраль сравнялся по температуре с мартом, а некоторые числа даже походили на апрель. А что касается календарной весны, то в целом она была теплая, комфортная и красивая, особенно в мае, когда все зацвело, забурлило. Из своих личных наблюдений: еще лето не началось, а птенцы скворцов уже вылетели из гнезда. Все весенние месяцы были теплее климатической нормы, вошли в десятку самых теплых, температура поднималась выше нормы на 2–7 градусов.

### Лето попытается повторить рекорд весны

1 июня установилась аномально теплая погода. За первые сутки лета температура воздуха была на 2–8 градусов выше климатической нормы – 22–28 градусов. Что впереди? Погода ожидается теплее обычного. На большей части территории средняя сезонная температура воздуха будет выше обычной. Но здесь есть свои минусы. По западной и юго-западной половине страны количество осадков ожидается меньше своих значений.

А теперь пройдемся по месяцам. Июнь ожидается выше климатической нормы на один градус. А количество осадков будет меньшим. По Минску начало июня, как видим, аномально теплое, но с 6 июня похолодает – погода для горожан будет как раз более комфортная. Однако с 14 июня температура воздуха опять повысится. Вторая декада июня, в принципе, закончится температурами выше нормы, комфортной погодой – 18–25 градусов. Временами будут идти дожди. В третьей декаде погоду будут определять антициклоны, температура воздуха – 20–27, в южных регионах в отдельные дни 28–31 градус. А дождей немного.

Июль считается самым жарким месяцем в нашей стране, а в этом году его температура ожидается еще и выше нормы. То есть будет стоять жаркая погода без осадков. Август, по нашим прогнозам, будет близким к своим климатическим значениям. Средняя температура 16–17 градусов, и количество осадков предполагается около нормы – 62–69 миллиметров.

**Виктория ДРОЗД.**

РАКІРОЎКА

## Мікалай Аўтуховіч адкрыў новую фірму

Дзейнічаць яна пачала з учарашняга дня.

Не так даўно ваўкавыскі прадпрымальнік і былы палітвязень Мікалай Аўтуховіч даведаўся, што ягоную фірму «Ніка-таксі 22222» пазбавілі ліцэнзіі. А таму вырашыў адкрыць новую.

*"2 чэрвеня заканчваўся тэрмін дзеяння старой фірмы, але хутка адкрылі новую, атрымалі ліцэнзію, і з гэтага ж дня ўвесь калектыў пачаў працаваць у новай фірме пад назвай "Ніка-таксі"*, – распавёў Мікалай. *– Будзем спадзявацца, што зараз чыноўнікі не будуць нам устаўляць палкі ў колы, як гэта было раней"*.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПУЛЬС

## Упростить визовый режим

«Мы хотим облегчить визовый режим для тех, кто хочет приехать в Беларусь», – заявил вчера представитель МИД Беларуси **Дмитрий Мирончик**.

Сейчас внешнеполитическое ведомство совместно с другими органами госуправления согласовывает текст соответствующего указа президента. «Отрабатывается та часть, которая не позволит воспользоваться новыми льготами нелегальным мигрантам», – добавил Мирончик.

ОБЩИЙ ПЛАН

## Красота – это тоже достижение

В первый день лета премьер-министр Беларуси Андрей Кобяков вручил государственные награды лучшим людям нашей страны – всего более 50 человек. Среди них труженики Оршанского льнокомбината, учителя, соцработники, преподаватели, ученые. А также две красивые женщины, две приятельницы и коллеги – Светлана Боровская, актриса и телеведущая, и ведущий мастер сцены Театра-студии киноактера Вера Полякова-Макей, жена министра иностранных дел Владимира Макея. Обе получили из рук премьер-министра медали Франциска Скорины. Медаль – почти обязательная ступенька, чтобы следующей наградой стало звание «Заслуженный артист Республики Беларусь». И дело, видимо, за этим у Светланы и Веры не станет. Заслужат они и «заслуженных»!

**Кирилл БУБНОВ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

## Як я правяраў на Камароўцы свежыя грыбы

*Купіць купіў, але пачаставацца так і не ўдалося. Вярнуў прадаўцу...*





Сталічны Камароўскі рынак нават у працоўны дзень у дзесяць гадзін раніцы ўжо не спіць і гудзе напоўніцу. Яшчэ на падыходзе да яго бабулькі гандлююць з зямлі цыбуляй, кропам і іншай гароднінай. Над імі ўзвышаецца плакат з сацыяльнай рэкламай – *"Наш труд – любимому городу. Победители городского конкурса профессионального мастерства»*. Сімвалічна!

Дарэчы, доўга шукаць грыбы не даводзіцца – метраў за сто да рынку стаіць жанчына з некалькімі вёдрамі падбярозавікаў.

– Дзе збіралі? – цікаўлюся.

– Каля Асіповічаў, па салігорскім накірунку, – распавядае яна. – У нас там дажджы такія лінулі, што грыбы адразу пайшлі ў рост. Праўда, адны падбярозавікі, іншых няма. З тыдзень, напэўна, раслі, а зараз ізноў зніклі. Спякота зямлю высушыла. Купляйце, добрыя грыбы... Малое вядзерца – 50 тысяч рублёў, вялікае – 150 тысяч. Але майце на ўвазе, што не скіну ні капейкі. Столькі часу па лесе цягалася...

Абяцаю жанчыне купіць у яе падбярозавікі, а сам тым часам цікаўлюся наконт грыбоў на рынку.

– Учора, здаецца, адзін чалавек прадаваў, а сёння нікога няма, – кажуць мне гандляры.

Выбару не застаецца – даводзіцца купіць за 50 тысяч невялікае вядзерца грыбоў у жанчыны з Асіповіцкага раёна. Разам з пакупкай прамой хадой накіроўваюся ў санітарна-ветэрынарную лабараторыю рынку, дзе напачатку наогул не разумеюць, навошта я хачу праверыць грыбы на радыяцыю.

– Вы купілі каля 400 грамаў грыбоў, з іх палова спатрэбіцца для экспертызы, – адгаворваюць мяне супрацоўнікі лабараторыі. – Іх мы ўжо не вернем, так што грошы выкінеце на вецер.

– Чаму на вецер? – не здаюся я. – Хачу праверыць гэтыя грыбы і, калі ўсё будзе ў норме, куплю ў жанчыны і астатнія.

– Ваша справа...

У мяне патрабуюць пашпарт, каб скласці дамову, і просяць заплаціць у касу 50 тысяч рублёў.

– Божа, што вам прадалі! – усплёскваюць рукамі ад абурэння лабаранты, ледзь пачаўшы рэзаць грыбы. – Яны ж толькі вонкава здаровыя, а ўнутры – адны чэрві. Навошта вам грыбы з такім "мясам"?! Цягніце сюды гэтага прадаўца, мы прымусім яго вярнуць вам грошы.

– І ўсё ж такі я хацеў бы, каб грыбы праверылі на радыяцыю, – настойваю на сваім.

Мяне просяць "пагуляць прыкладна паўтары гадзіны", таму ёсць час пацікавіцца коштамі на Камароўцы: памідоры – 10.000–60.000 рублёў за кілаграм, гуркі – 5500–12.000, цыбуля – каля 14.000, маладая бульба – 13.000–22.000, радзіс – 13.000–16.000, абрыкос – 45.000, персікі – 55.000, чарэшня – 55.000–70.000, клубніцы – 45.000–65.000 рублёў.

Дарэчы, на рынку ўжо прадаюць беларускія трускалкі (ва ўсялякім выпадку так кажуць), хаця пінскіх ягад (*вёска Дварэц у Пінскім раёне лічыцца клубнічнай сталіцай*) на Камароўцы зусім няма. У асноўным – з Івацэвічаў і Драгічына.

– *На адкрытым грунце мае клубніцы выраслі, гатунак "Ханойка"*, – хваліць свой тавар адна жанчына і ў той жа час шчыра прызнаецца: – *Вы сёння не знойдзеце на рынку такіх ягад, якія выраслі б зусім без "хіміі", на адным гноі. Трэба ж з рознымі шкоднікамі змагацца, падліваць нешта ў зямлю, падсыпаць... Я і сама, дарэчы, такую ем.*

На рынку – шмат пенсіянераў, якія выбіраюць прадукты ў залежнасці ад таго, колькі маюць грошай у кішэні. Як правіла, купляюць самае таннае. Напалову гнілыя памідоры прадаюць па 5 тысяч рублёў, але, як аказалася, і на іх знаходзіцца свой пакупнік. Прадаюцца тут і ўзбекскія таматы – 280 тысяч за кілаграм. Хто іх купляе – для мяне засталося загадкай...

Паўтары гадзіны прайшло, можна ісці ў лабараторыю за вынікамі экспертызы.

– Вашы грыбы чыстыя, – паведамілі мне добрую навіну. – Гранічная норма 137-га цэзію ў грыбах – 370 бекерэляў на кілаграм, а ў гэтых падбярозавіках – менш за 50. Гэта дакладныя звесткі, некалькі разоў пераправяралі. Але на будучае вам парада – не купляйце грыбы па-за рынкам.

Мая субяседніца распавядае, што яны правяраюць садавіну і гародніну толькі на радыяцыю і нітраты, бо ў іх экспрэс-лабараторыя. Многія нясуць тавар на праверку, калі пачынаецца ягадна-грыбны сезон.

– Я вам параіла б так: калі збіраецеся набываць грыбы і ягады па-за рынкам, праверце іх у нашай альбо іншай санітарна-ветэрынарнай лабараторыі, – дадае лабарантка. – Баравікі, падбярозавікі, махавікі, курачкі, падасінавікі і лісічкі адносяцца да той групы грыбоў, якія, што называецца, усмоктваюць цэзій-137. З ягад у групе рызыкі – чарніцы і буякі, маліна і суніцы, ажына і рабіна. Калі ж вы купляеце іх на рынку, то патрабуйце ў прадаўца талон санітарна-ветэрынарнай экспертызы, які той павінен мець пры сабе. У ім – вынікі праверкі прадуктаў, што здаваліся нам на аналіз. Няма такога талона – лепш не купляйце. Альбо скажыце: "Пойдзем праверым вашы грыбы, а затым я ў вас куплю". У такім выпадку экспертызу аплаціць прадавец. Здараецца, што прывозяць на рынак ягады, праверылі, а цэзій перавышае норму. Больш за тое – могуць прывезці іх нават з чыстага рэгіёна, а перавышэнне ўсё роўна ёсць. Таму не варта верыць на слова прадаўцам, што іх раён радыяцыя не закранула. Правяраць у наш час патрэбна ўсё. Асабліва калі купляеце прадукты для дзяцей. Вось вы зараз з намі заключылі дамову, таму пашпарт вам у нас больш не патрэбны: на працягу года можаце прыносіць на праверку садавіну і гародніну без складання новай дамовы. Заплаці 50 тысяч – і еш спакойна".

Напрыканцы супрацоўніца лабараторыі пагутарыла і з гаспадыняй чарвівых грыбоў, якая, дарэчы, вярнула грошы за "псаваны тавар". Хаця, як па-філасофску казаў адзін мой знаёмы: *"Не тыя чэрві, што мы ядзім, а тыя чэрві, што нас ядуць..."*

**Алесь СІВЫ.**

Фота аўтара.

